№ 3 Чацьвер, 3 Ліпня 1924 г. Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць два разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты. За граніцу ўдвая дараж[illegible]

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр. у тэксьце — 10 гр. на апош. стар. — 5 гр.

## [illegible]беларусы!

*Чытайц[illegible] [illegible]шырайце газэту на сваей роднай мове — „Грамадзкі Голас“. Н[illegible] [illegible]адуйце грошай на падпіску, калі хочаце, каб да вашага голасу пр[illegible] [illegible]сваліся!*

# Які-ж рэзультат?

Хутка ужо два годы скончыцца, як адбыліся й на нашай беднай зямлі выбары у законадаучыя органы Польскае Рэспублікі — выбары у Сойм і Сэнат.

Час ужо аглянуцца назад, паглядзець уважна на тое, якую рэальную карысьць гаротнаму беларускаму народу прынясло яго вялікае права — пасалць сваіх выбранцау у тыя найвышэйшыя органы дзяржаунае улады, у якіх выкоуваюцца магутныя рэгулятары сучаснага жыцьця культурных народау, або законы.

Калі мы перанясёмся на момант на гэтыя мінулыя два гады назад у перадвыбарную атмосфэру і спомнім пра пэрсональны рэзультат выбарау, ці йначай кажучы самы факт выбару пэуных асобау дзеля нязвычайна адпавядальнае дзейнасьці перад сваім уласным народам, як і перад усім іншым насяленьнем Рэспублікі, дык прымушаны будзем ні то плакаць, ні то сьмяяцца.

А гэта таму, што у рэзультаце паміж выбранцамі беларускага народу, бяз ніякага павялічальнага апарату, простым, як кажуць, нічым неазброеным вокам бачым цяпер, пасьля пэуных фактау, гэткіх паноу, якія відочна саусім не разумелі свае высокае пасольскае місіі.

«Калі ня поп, дык і у рызы не апранайся», — кажа жартаулівая беларуская прыказка.

Мы, крый Божа, ня хочам закрануць «сьвятое сьвятых» кожнага пасла, ня хочам чапаць інтымных бакоу павядзеньня нашых паслоу. Хочацца толькі і трэба, як нам здаецца, падбіць маленечкі агул іхняму *безрэзультатнаму* сядзеньню на пасольскіх крэслах, глянуць на тую *надзвычайна крывую лінію іхняе парлямэнтарскае тактыкі*, якая ужо зрабілася публічна вядомаю.

Але перад гэтым, некалькі словау аб самай мэце выбарау, якую два гады назад ставіу сабе Беларускі Цэнтральны Выбарчы Камітэт.

Як у свай час высьвятліу гэта офіцыёз Цэнтр. Белар. Выб. Камітэту «Беларускі Звон», мэта выбарау з пункту гледжаньня патэнтованых беларускіх палітычных дзеячоу была надта простая: *правядзеньнем у Сойм і Сэнат Польшчы магчыма большага ліку паслоу даказаць раз назаусёды усім і кожнаму, што зямля усё-ж такі круціцца — што беларусы у Польшчы ёсьць.* І самым фактам вольнага выбару насяленьнем сваіх беларускіх дэпутатау аканчальна перакінуць дагары нагамі даволі дзікае цьвярджэньне нацыяналь-шов'іністычных польскіх кругоу, быццам беларусы у Польшчы — гэта нешта так сабе — ні тое, ні сёе, ну, як-бы нейкая выдумка ворагау польскае дзяржаунасьці.

Калі разглядаць беларускім вокам першыя выбары у адроджаны Польскі Парлямэнт толькі з вышэйсказанага боку і рэзультат выбарау ацэньваць з пункту гледжаньня мэты, пастауленай Беларускім Выбарным Камітэтам, дык трэба прызнацца, што мэта гэтая была якнайлепей дасягнена: стаука выбарнага Камітэту не на *якасьць* паслоу, а на простую *колькасьць* іх аказалася выйгранаю.

Але-ж! як беларускаму народу у наш культурны век ня прыходзіцца даказваць, што зямля круціцца, так сама ня прыходзіцца яму даказваць, што беларусы у Польшчы ёсьць.

Прыходзілася, відаць, кіраунікам выбарамі на беларускіх землях ставіць мэту дзеля нейкага, яб якім цяпер паслы заікаюцца, эуропэйскага форуму, каб ужыць гэтую мэту не для рэальнае карысьці рэальна жывучага народу, а пусьціць яе на… экспорт.

Якая мэта, такая была й яе рэалізацыя.

Ці-ж ня усё роуна, хто меу папасьці у пастауленую Выбарным Камітэтам перад сабою *колькасьць* паслоу?

Ды так і выйшла. Побач з сапрауды заслужанымі на беларускім палітычным полі дзеячамі (больш ці менш здольнымі — гэта няважна), пасольскія мандаты адтрымалі й нікому невядомыя особы часта густа «бѣлоруссы через ять».

Адкуль выскачылі усе гэтыя п.п. Якавюкі, Назарэускія, Каліноускія, Валошыны, Рагулі?

І чым-жа скончылі некаторыя з іх?…

Як расшыфраваў у № 7 за 26. VI гэт. году «Сын Беларуса» гэткая, напр. кандыдатура, як былы пасол Каліноускі «была прынята Белар. Выбарным Камітэтам, як кандыдатура *расейская*»…

Якія-ж першыя й далейшыя крокі гэтых і расейскіх і нерасейскіх кандыдатурау беларускага Пасольскага Клюбу іп согроге у парлямэнце?

Пасьля салодкае прэлюдыі аб ідэале незалежнасьці, першая дэклярацыя нашых паслоу зазьвінела штодзенным тонам шырокага аутанамізму. Затым лёгкі флірт з кабінэтам гэн. Сікорскага, далей безварунковая опозыцыя да кожнага ураду і, нарэшце, карыстаньне з Сойму, як з трыбуны ня йначай мусі як дзеля выбраньня гаварыльнае здольнасьці, патрэбнай на яшчэ больш родную нашым паслом дзеяльнасьць… мітынгі.

Усе гэтыя мітынгі, інтэрпэляцыі, прамовы з Соймавай трыбуны — усё гэта, аднак-жа, праца, але-ж трудна яе назваць іначай, як сызыфавай працай.

Паважаныя паслы нашыя выпусьцілі з вачэй адзін маленечкі псыхолёгічны момант: ідучы у Сойм яны, як быццам запомнілі, пра тое, што для іх, як для парлямэнтарыяу Польскае Дзяржавы, беларуская справа ад польскай дзяржаунасьці зьяуляецца тут у нас неаддзялімаю.

І гэткае выпушчэньне з вачэй пэунага псыхолёгічнага і, дадамо тут, юрыдычнага моманту расьперазала іх саусім і скіравала на шлях выкоўваньня беларускага пытаньня у Польшчы у гэткай постаці, у якой яно зьяулялася-б годным усё дзеля таго-ж самага экспорту. А ні малюсенькага сінючка у рукі беларускаму селяніну паслы нашыя не далі, а цікавую тактыкай сваею зрабілі калі ня кожнага селяніна, дык напэуна кожнага беларускага інтэлігента палітычна «неблагонадежным» у вачох ня толькі дзяржаунае адміністрацыйнае улады, а і у вачох усяго польскага грамадзянства.

Гэткі сумны рэзультат заусёды магутнага, дзеля кожнага дэмакрата заусёды сьвятога, народнага галасаваньня.

Гэтак, падаунейшаму, гаротна выглядаем мы у эпоху няупыннага руху нацыянальных самаазначэньняу шмат якіх і меншых і можа навет болей убогіх за нас народау.

А ліха гэтае шмат залежала ад таго, што, выбары як-бы пісаліся намі «на калене», ня было поунае, бязумоуна патрэбнае у гэткія моманты, коордынацыі усіх беларускіх грамадзкіх сіл, арганізованнасьці іх і аб'яднаньня.

---

**Газэту прачытай і перадай суседу!**

**Той, хто умее чытаць, ніколі не паляпуйся прачытаць няпісьменнаму!**

# Палітычная хроніка.

**У Польшчы.**

— Пры галасаваньні ў Сойме бюд'жэту Міністэрства Унутраных Справаў 25 чэрвеня г. г. большасьцю 157 проці 156 галасоў прынята была прапазыцыя пасла Попеля аб зьмяншэньні пэнсіі паліцыі на 100 злотых. З гэтае прычыны міністар Гюбнэр падаў заяву аб адстаўцы, якая была ня прынята старшынёю рады міністраў Грабскім. Ня прынята таксама і адстаўка галоўнага камэнданта паліцыі.

— На паседжаньні Рады Міністраў прыняты апрацованыя праз гэт. званую камісію чатырох (Ст. Грабскі, Лёвэнгэрц, Старчэўскі і Тугут) праекты законаў датыча няпоўнага правядзеньня ў жыцьцё самаўраду у трох усходніх ваяводзтвах. Законы гэтыя складаюцца з правілаў *аб ужываньні мясцовых моваў — беларускае, украінскае і літоўскае ў урадовых інстытуцыях, школах і судох.* Законы маюць быць хутка ўнесены ў Сойм.

— 30 мінулага чэрвеня Міністар Унутраных Справаў Гюбнэр падаў прэм'ер-міністру справаздачу аб апрацы камісіі экспэртаў **па справах акраін.**

— Паўнамоцны міністар і над'звычайны пасол у Маскве Дароўскі зрабіў 30.VI прэм'ер-міністру Грабскаму абшырную справаздачу аб сытуацыі ў Маскве і аб цяперашняй фазе польска-расейскіх адносін. П. Людвік Дароўскі прыняў 30.VI сваю новую пасаду Міністра Працы і Грамадзкае Апекі. Кіраўніцтва пасольствам Польскае Рэспублікі ў Маскве часова заняў п. Вышынскі.

**За граніцаю**

— На мінулым тыдні ў паседжаньнях француcкіх палатаў прэм'ер-міністар Эрыо зрабіў даклад аб конфэрэнцыі з прэм'ер-міністрам Англіі Мак-Дональдам і прэм. Бэльгіі Гюмансам. Паміж іншым, Эрыо заявіў, што Амэрыканскія Злучаныя Штаты згаджаюцца быць на міжсаюзнай лёнданскай конфэрэнцыі — афіцыяльна па тых справах, якія датычаць Амэрыкі і неофіцыяльна па справах, якія яе не датычаць.

— У Парыжы адтрымана нота ўраду Нямецкае Рэспублікі па пытаньню аб міжсаюзным ваенным кантролі. Нота дамагаецца пачакаць яшчэ месяц.

— Урад **Югаславіі** робіць стараньні аб дапушчэньні на лёнданскую конфэрэнцыю, якая мае адбыцца 16 ліпня.

— Рымскія газэты паведамляюць, што **Італія** прыме запрашэньне быць на конфэрэнцыі саюзнікаў у Лёндане.

— Рээрганізацыя ўраду у **Італіі**, паводлуг павед. газ. **„Nuovo Presse"** адбудзецца ў першыя дні ліпня. Мусоліні мае заклікаць у раду міністраў ня толькі сяброў фашыстаўскае партыі. Урад не працівіўся пастанове агульнае конфэдэрацыі працы аб спыненьні 27-га чэрвеня працы на 10 мінют у чэсьць Маттэотті.

— Соцыяль-дэмократычная фракцыя нямецкага парляманту (рэйхстагу) зрабіла запытаньне ўраду, ці ён гатовы паставіць пытаньне аб прыняцьці **Нямеччыны** да Лігі Народаў яшчэ да 1-га верасьня 1924 году.

— **Нямецкая прэса** прымае (з агаворкамі) да ведама факт новага ваеннага кантролю і зацьвярджэньне гэтага кантролю нямецкім урадам; газэты паведамляюць, што гэта будзе апошні непасрэдны кантроль, пасьля чаго кантроль на сябе вазьме Ліга Народаў.

— Нямецкі міністар унутраных справаў спыніў на два тыдні камуністычную газэту **„Rote Fahne"** („Чырвоны Штандар").

— **У Англіі** парлямэнт аднагалосна прыняў рэзалюцыю канцлера скарбу Сноудэна аб забесьпячэньні на старасьць. Паводлуг рэзалюцыі, кожны, хто пражыў 70 гадоў веку і ня мае магчымасьці заробку альбо іншых крыніцаў утрыманьня, карыстаецца дзяржаўнаю эмэрытураю ў разьмеры 10 шылінгаў у тыдзень.

— Прэзыдэнт **Ірляндыі** замервяецца выпусьціць на свабоду вядомага барацьбіта за ірляндзкую незалежнасьць дэ-Валеру, а таксама ўсіх палітычных арыштованых.

— У урадовых кругах С. С. С. Р. пануе неспакой з прычыны страшэннага неўраджаю на Украіне.

— Як паведамляе амэрыканская газета **„New Iork Herald"** на лёнданскую конфэрэнцыю будуць запрошаны і прадстаўнікі С. С. С. Р.

— Іоффэ назначаны сябром савецкае дэлегацыі для перагавораў з Англіяй.

— Расейскія соцыяль-дэмократы правялі некалькі сабраньняў у розных сталічных эўропэйскіх гарадох. Мэтаю іхняю зьяўляецца—Дэмократычная Расейская Рэспубліка, аднак, бяручы пад увагу цяжкае палажэньне расейскага пролетарыяту, яны мірацца з радавым парадкам пры варунку выпаўняньня радавай конституцыі, свабоды друку і слова, новых выбараў да радаў, адмены кары сьмерці, скасаваньня ГПУ., амнэстыі для палітычных арыштованых, зраўнаньня правоў кам. партыі з іншымі і поўнае свабоды профэсыянальных саюзаў.

— Як піша **„Rzeczpospolita"**, ў сталіцы Радавае Беларусі Менску закончыўся працэс 82 беларускіх паўстанцаў. 50 паўстанцаў на чале з атаманам Бароўскім засуджаны на сьмерць, 31 на вечны вастрог. Прыгавар споўнены адразу.

— Конфэрэнцыя **Амэрыканскае** дэмократычнае партыі выказалася за правядзеньне рэфэрэндуму (агульна-народнага галасаваньня) па пытаньню аб уваходзе Злучаных Штатаў у Лігу Народаў.

— У Жэнэве **(Швайцарыя)** адбываецца Міжнародная Конфэрэнцыя Працы. Польскі Урад прадстаўляе на конфэрэнцыі інж. Сокаль

# Агляд прэсы.

Самую бязьлітасную ацэнку італьянскіх падзеяў робіць польскі рабочы орган „Robotnik", які з самага пачатку істнаваньня фашызму заняў непрымірымую да яго пазыцыю. У апошніх падзеях у Італіі ён бачыць толькі справядлівасьць сваіх ранейшых зданьняў аб фашызме.

— Забойства Маттэотті,— піша газэта,— наэлектрызавала ўвесь сьвет. Ня толькі з пункту гледжаньня на асобу забітага і на акалічнасьці, сярод якіх зроблена забойства, але таксама й таму, што гэтае забойства зьяўляецца як-бы непасрэдным адказам фашыстаў на праграмную прамову іхняга павадыра Мусоліні за 7 чэрвеня, ў якой ён выказаў жаданьне супрацоўніцтва з опозыцыяй, ведама што не нарушаючы фашыстаўскае дыктатуры. Было кінена пытаньне: дзе сапраўдны фашызм, у словах як быццам гатовага прымірыцца і сконнага да рэформаў начальніка фашызму, ці ў бандыцкіх дзеяньнях фашыстаўскага дна?

Пытаньне гэтае аснована на непаразуменьні. Рэакцыйная прэса ўсіх краёў, моцна стрывожаная компромітацыяй і крызысам фашызму, пнецца даказаць, што апошняе праступленьне зьяўляецца справаю паасобных людзей, за якую не нясуць адпавядальнасьці кіраўнікі фашыстаўскае палітыкі і якая, ў кожным выпадку, ня кідае плямы на „сьвятое сьвятых" фашызму.

Гэта дарэмныя натугі пячыстага фашыстаўскага сумленьня. Праўда, што Мусоліні ня браў удзелу ў забойстве, якое гэтак падарвала аўторытэт яго ўраду і Італіі навет у мяшчанскіх сфэрах за граніцаю. Але-ж забойства Маттэотті не зьяўляецца выпадковым фактам у праўленьні фашызму, а толькі адным з нязьлічаных забойстваў і гвалтаў, зробленых і далей робленых з дня зьяўленьня фашызму. Забойства, як мэтода, як аргумэнт у палітычнай барацьбе гэтак глыбока ўкаранілася ў фашыстаўскай Італіі, што Думіні, адзін з забойцаў Маттэотті, пасьля арышту заявіў горда, што рабіў гэта з мэтамі нацыянальнымі і патрэбаваў, каб яго доўга ня трымалі ў вастрозе, ў праціўным выпадку зробіць так, як некалі біблійны Самсон.

**І далей газэта канчае:**

І вось відаць, наскольскі фальшывыя ўсе тыя ўцёхі з фашызму, як з нечага новага і арыгінальнага, наскольскі бязглузда зраўнаньне Мусоліні з прарокам. Фашызм, калі быў яшчэ ў пялюшках, дык меў орэоль некаторае нацыянальна-італьянскае ідэі, але—як палітычны рух, з самага пачатку насіў азнанае, для якое заграні́чныя рынкі мелі-б большае значэньне, чымся ўнутраны рынак. Гэтак, напрыклад, калі закрануць камэнны вугаль, які іграе важную ролю ў нашым гандлёвым балянсе, дык з агульнага ліку дабычы, якая ў 1923 годзе раўнялася 36 мільёнам тоннаў (тонна = 61 пуд), вывезена за граніцу толькі 36%. З агульнае дабычы — 362.400 тоннаў солі ў мінулым годзе, вывезена за граніцу 3%. Міністэрства Скарбу вылічыла, што кошт прадукцыі 13 найважнейшых галінаў прамысловасьці, а ласьне: горнае, валакністае, мэталічнае, канфэкцыйнае, нэфтавое, мінэральнае, скуранае, хімічнае, друўлянае і папяровае дайшоў ў 1923 г. 4 мільярдаў злотых. Кошт вывезеных за граніцу рэчаў прамысловага вытвару дасягнуў 1 мільярда злотых, альбо 25% агульнага вытвару. Гэтыя даныя сьведчаць аб тым, што быт нашае прамысловасьці залежыць ад ёмкасьці нашага ўнутранага рынку, ў якім рашучую ролю іграе куплялная здольнасьць земляробскае клясы, як самае вялікае ў гаспадарстве. Значыцца, чым замажнейшаю будзе земляробская кляса, тым лягчэйшы збыт рэчаў свайго вытвару знайдзе прамысловасьць на нашым унутраным рынку. І наадварот, зьбядненьне сельска-гаспадарчае клясы, зьмяншэньне яе грашавых даходаў, а тым самым аслабленьне яе куплялнае здольнасьці пацягне за сабою ў рэзультаце застой у гандлі і прамысловасьці. Гэту старую праўду пацьвярдзілі факты, сьведкамі якіх зьяўляемся ў апошнія месяцы, і якія вучаць нас, што ў дзяржавах, як Польшча з пераважальна земляробскаю клясаю аснову істнаваньня і разьвіцьця ўсіх галінаў эканамічнага жыцьця складае ні што іншае, як сельская гаспадарка.

Трэба чакаць, што залежнасьць нашае прамысловасьці ад унутранага рынку ў будучыне яшчэ больш павялічыцца. Увесь сьвет, як ведома, перажывае пэрыяд прамысловага крызысу, які выяўляецца ў надмерным прапанаваньні тавараў у параўнаньні з патрэбаю. Пэрспэктывы будучыны для эўропэйскае прамысловасьці вельмі сумныя дзеля таго, што за час вайны ў Азіі, Афрыцы і Аўстраліі, якія раней былі адзінымі рынкамі збыту для Эўропы, разьвілася ўласная прамысловасьць. А нізкі кошт рабочае працы ў гэтых краёх забясьпечвае ім перавагу ў конкурэнцыі. Нягледзячы на гэтыя неспагадныя варункі для эўропэйскае прамысловасьці, ў Польшчы прамысловасьць у пасьляваенны час разьвівалася даволі ўдачна. У шмат якіх галінах вытвару прадукцыя перавысіла разьмеры даваеннага часу, паўстаў цэлы рад новых прадпрыемстваў, нябыўшых да вайны. Сталася гэта ня толькі дзякуючы таму, што прамысловасьць наша карысталася ў шырокіх разьмерах абаронным мытам, але таксама і ў сілу таго, што мінулы 5-ць гадовы пэрыяд у Польшчы быў пэрыядам заўсёднага падзеньня валюты, што для прамысловасьці прадстаўляла надта спагадныя варункі, дастаўляючы ёй чатыры важныя вывазныя прэміі. Прэміі гэтыя заключаліся: 1) ў надта нізкіх і руйнацкіх для дзяржаўнае казны, але выгадных для прамысловасьці і гандлю чугуначных тарыфах, 2) надта нізкіх падатках; 3) у крэдытах, якія шчодра даваліся Р. К. К. Р. у марках, якія аддаваліся пасьля ў абясцэненай валюце і 4) нізкім роўні рабочых ставак, не даходзіўшых у пераводзе на золата да разьмеру рабочых ставак за граніцаю. З момэнтам стабілізацыі валюты, прэміі, якімі карысталася прамысловасьць у папярэдні пэрыяд, зьнікнулі і шансы аходаньня конкурэнцыі з прамысловасьцю іншых дзяржаваў значна зьменшыліся. Зьменшылася вывазная здольнасьць нашае прамысловасьці і адначасна павялічваецца ўвоз заграні́чных тавараў.

*(Працяг будзе).*

кі агульныя для ўсіх рэакцыяў. Калі Мусоліні ўнёс што-нібудзь новае і „ўласнае“ ў фашызм, дык хіба толькі мэтоды, пазычаныя ад... бальшавікоў.

Леон Радзіоускі, добра знаёмы з царкоунымі пытаньнямі закрануу у „Rzeczypospolitej“ адно з найцікавейшых пытаньняу:

Справа ў тым, — піша ён, — што ўлада праваслаўнае царквы ў Польшчы ўвяла 22 чэрвеня ў праваслаўнай царкве грыгорыянскі календар з тым выняткам, што Вялікдзень і пераходныя сьвяты і надалей будуць сьяткавацца згодна з Юліянскім календаром.

Трэба заўважыць, што падобнае распараджэньне было выдана таксама і Канстантынопальскім патрыярхам і навет нейкі час было абавязковым у Расеі па распараджэньню патрыярха Ціхана, які пасьля дзеля нейкіх пабуджэньняў адмяніў сваё распараджэньне, хаця на дарозе ўвядзеньня новага календара ў праваслаўнай царкве не стаіць ніякіх канонічных перашкодаў.

Нягледзячы на гэта, праваслаўныя сэнатары і пасла Сойму выкарысталі зьмену календара, як зброю агітацыйнае барацьбы проці Польскае Рэспублікі і цяперашняй нецярпімай імі царкоўнай іерархіі ў Польшчы. Якраз парлямэнтцкія прадстаўнікі украінскае, беларускае і расейскае нацыянальнасьці in corpore падалі мітрапаліту Дыянізію абшырны мэморыял па гэтым пытаньні.

Аўторы мэморыялу вінавацяць польскіх праваслаўных іерархаў у адрачэньні ад патрыярха Ціхана, ад якога праваслаўная царква ў Польшчы „залежыць фармальна“, а ўсялякіх ссылак на канстантынопальскага патрыярха ня лічыць важнымі, дзеля таго, што канстантынопальская царква „малая“, „бедная“ і „паднявольная“, а новы стыль уведзены там толькі „ў сілу вядомых прычынаў“.

Аутор артыкулу прыводзіць яшчэ цэлы рад аргумэнтаў, якімі опэравалі аўторы мэморыялу, выступаючы у абарону старога календара у праваслаўнай царкве у Польшчы і канчае гэтак:

Нятрудна прадбачыць, што цяпер не абыйдзецца без бражэньня сярод праваслаўнага насяленьня ў Польшчы на грунце рэформы календара і што украінскія і расейскія сэнатары і пасла пайдуць на ўсё, каб стварыць у гэтым сэнсе новыя труднасьці дзеля польскага ўраду.

І робіцца гэта ў той час, калі праваслаўная царква перажывае самае дзіўнае разлажэньне, калі самыя шчыра веруючыя праваслаўныя ня ведаюць, якая неразгаданая палітыка Ціхана датычна саветаў, калі ў апошні час канстантынопальскі патрыярх Рыгор VII адкрыта перайшоў на старану бальшавікоў і прызнаў Ціхана пазбаўленым сану.

Відочна праваслаўная царква ў Польшчы, якая мае ўласную законную іерархію і знаходзіцца на шляху да ўпарадкаваньня сваіх адносін да Польскага Гаспадарства, служыць бяльмом на воку ў самазваных абаронцаў „благочестия“.

Ня будзем цьвярдзіць, што ў ранейшых адносінах паміж Польскаю Дзяржаваю і праваслаўнаю царквою абыйшлося без памылак.

Наадварот, гэткія памылкі былі, але Польская Рэспубліка шчыра будзе імкнуцца да належнага ўпарадкаваньня гэтых пытаньняў бяз шкоды для царквы. І аб гэтым тыя, што паздароваму думаюць, праваслаўныя масы ня могуць ня ведаць.

Не адразу быў збудованы Кракаў і не адразу адроджаная Польшча можа справіцца з вялікім лікам проблемаў свайго ўнутранага быту. Але мэморыял, паданы царкоўным уладам павінен нам адчыніць вочы на тое, якія абаронцы праваслаўя сядзяць у Польскім Сойме і Сэнаце.

А нам здаецца, што як няма заняцца чым-нібудзь лепшым паном паслом, дык хоць сабе і календаром царкоуным ня грэх пазабаўляцца.

# Жыцьце провінцыі.

## Сяло МАРКАВА, Вялейскага павету.

Да нас дайшлі чуткі, што ў Вільні пачала выходзіць новая газэта на нашай роднай мове.

Чулі мы таксама, што газэта гэта хоча аб'яднаць усе Беларускія гуртаваньні, каб даць пэўны кірунак нашай народнай нацыянальнай справе. Просіма, каб хутчэй была прыслана нам газэта; няхай хоць яна ўнясе сьвет у нашае гаротнае жыцьцё. З болькай у сэрцы трэба ад'значыць, што да гэтай пары да нас яшчэ ніхто ня прыйшоў і не паінфармаваў аб нашай справе. Праўда прыяжджалі у Маладэечна пасла сойму з Беларускага клюбу і „Вызваленьня“, але ад іх мы толькі чулі, што яны „робяць усё, што ад іх залежыць“, але толкам з іх ніхто нічога не растлумачыў; што яны там робяць хто іх ведае, але да гэтага часу мы ня маем ні свае школы ні бібліятэкі; газэты і тае мы не адтрымліваем. Трэба, каб цэнтр паклапаціўся аб дастаўцы нам газэт і кніжак на нашай роднай мове, трэба каб цэнтр падтрымліваў з вёскай цесны контакт, трэба каб тыя, хто хоча нешта рабіць для Беларускай справы, болей прыслухоўваліся да голасу нас, сялян, і каб не рабілася так, як робіцца да гэтага часу, што асобы, якіх ня ведае наш народ крычаць і гаворацць ад імя сялян; мы хочама творчай культурна-прасьветнай працы ад нашае інтэлігэнцыі, а не мітынговых выкрыкаў, ад якіх пападае „на гарэхі“ ня крыкуном, а нам гаротным жыхаром вёсак!

Болей сьвету ў вёску! Тады пойдзе і праца дружней.

*Янка Худы.*

# ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА.

— **Справа па-базыльянскіх мурой.** На 3 гэтага ліпня ў Акружным Віленскім Судзе назначаны разгляд справы аб праве ўласнасьці на 10 дамоў, у адным з якіх (на Вострабрамскай вуліцы, 9) месьціцца Беларускі Музэй і Беларуская Гімназія.

— **Паштовыя ўлады** выдалі распарацжэньне, паводлуг якога пры ўпісваньні пісьмаў з падлнай вартасьцю, а таксама цэнных пасылак у сьпіскі перасылкі трэба падаваць толькі лічбу злотых, а гроши прапушчаць

— За зваротныя пасьведчаньні аб адтрыманьні паштовых пасылак (трэбаваныя пры падаваньні) плаціцца 20 грошай.

— **Кантроль прызыўных** 1883 — 1899 г. г. Міністэрства Вайсковых Справаў загадала каб Р. К. U. за час ад 28 чэрвеня да 1 кастрычніка зрабіла дадатковы кантроль прызыўных 1883—1899 г. г., якія дасюль на кантроль не зьяўляліся. Дзеля гэтага кантролю створаны спэцыяльныя тры ваенна-дакторскія камісції: на г. Вільню, Віленска-Троцкі пав. і на Ашмянскі пав. Заклікаиьне на кантроль адбудзецца праз асабістыя павесткі Р. К. U.

— Як піша „Lietuvos Rytai“, ўладамі сконфіскованы літэратурны літоўскі альманах „Milda“.

— „Lietuvos Kelias“ паведамляе, што 7 гэтага ліпня адбудзецца адчыненьне летніх курсаў для народных літоўскіх настаўнікаў у Вільні.

— Сягоньня адбудзецца паседжаньне Управы Касы Хворых, на якім, паміж іншым, адбудуцца новыя выбары Дырэктара Касы.

— **Пачынаючы з гэтага нумару газэта наша ЧАСОВА будзе выходзіць два разы ў тыдзень.**



# Голас чытачоў.

## Да згуртаваньня грамадзкіх сіл.

*(Пісьмо у Рэдакцыю).*

З вялікаю зацікаўленасьцю і задаваленьнем прачытаў я перадавую стацьцю ў № 1 „Грам. Гол“. ад 22 чэрвеня г. г.

Зусім згаджаюся з невядомым мне аўторам, што час не чакае, што даўно ўжо патрэбна гуртаваньне ўсіх нашых сьвядомых, грамадзкіх сіл дзеля *легальнай* творчасьці і разрашэньня ўсіх пытаньняў бягучага народнага жыцьця.

Аб аб'яднаньні ўсіх сьвядомых грамадзкіх сіл для супольнай працы — заклікаў я яшчэ ў 1921 годзе ў Варшаве тагочасных правадыроў белар. справы п. Тарэшчанку і Арк. Смоліча, якія тады яшчэ ня скінулі свае палітычнае маскі і вялі нейкія пэртрактацыі з польскай уладай... Але ўсе мае высілкі разьбіліся аб вузкую партыйнасьць, непрымірымасьць і жаданьне ўтрымаць у сваіх руках кіраўніцтва бел. справай.

Інтарэсы Бацькаўшчыны былі прынесены ў ахвяру асабістаму самалюбству і ўладалюбству.

Пацярпеўшы няўдачу ў сваіх дамаганьнях у Варшаве, п. Тарэшчанка і Смоліч пачалі стукацца ў іншыя дзьверы на Усходзе і... пацягнулі за сабой даволі значную частку культурных беларускіх сіл.

Гэты палітычны разлом сярод белар. грамадзянства ў Польшчы, памойму праканаўньню, і ёсьць тая самая важная, аснаўная прычына, якая псуе ўзаемныя адносіны паміж рознымі беларускімі групамі, робіць іх непрымірымымі і варожымі адна да аднэй, даводзіць іх да адкрытай барацьбы.

І колькі незаслужаных, і хлусьлівых інсынуацыяў, сколькі слоў няпраўды і наглай клевяты вылілі і да гэтага часу выліваюць па адрэсе сваіх палітычных ворагаў сучасныя кіраўнікі белар. справы!

Сколькі атруты ўжо ўліта імі ў чыстую душу нашага белар. селяніна! Сколькі выцярпеў ён — белар. грамадзянін і вечны працаўнік-хлебароб ад таго, што паверыў брахуном, заклікаўшым яго да розных выступленьняў, да праступнай дзейнасьці, да бязсэнсавых забастовак, за якія расплачваўся сваім-жа каркам і сваей кішэняй ніхто іншы, як працоўны народ!

А сколькі горачы і расчарваньня, цяжкой нядолі і гора чакае яшчэ тых, якія паверылі у „Зямны Рай“ і самі на сябе налажылі бальшавіцкія кайданы?

Можа і хацелі-б яны вярнуцца ў „панскую“ Польшчу, але ўжо шляху для іх няма...

Дык вось-жа цяпер, калі шчыры гэты заклік да аб'яднаньня, калі ўзапраўды „Грам. Голас“ хоча згуртаваць белар. сьвядомыя грамадзкія сілы дзеля *легальнай і леяльнай* творчасьці, дык памойму, перш за ўсё трэба: 1) цьвёрда і выразна абвясьціць палітычную праграму і напрамак дзейнасьці, каб ня было ніякіх недасказанасьцяў, няпэўнасьці і памылак; 2) склікаць нараду, каб выбраць прадстаўнікоў у нейкі аб'яднаўчы і кіруючы цэнтр, бо істнуючы ў сучасны мамэнт у Вільні „Белар. Нацыянальны Камітэт“ зусім ня можа лічыцца аб'яднаўчым цэнтрам, бо ён яднае каля сябе толькі людзей пэўнага напрамку, аднэй палітычнай афарбоўкі, аднэй палітычнай думкі, якая дайшла ўжо да таго, што „*разьвязаньня*—як сказаў пасол Тарашкевіч у сваёй прамове ў Сойме 13 чэрвеня г. г. — *палючых задач прыходзіцца чакаць найхутчэй ад глыбокіх устрасеньняў, ад палітычнай і соцыяльнай рэвалюцыі*“...

Ну, а мы будзем старацца разьвязаць „палючыя“ заданьні бяз усякіх устрасеньняў, мірным і легальным шляхам, шляхам зьдзейсьненьня Польскай Конституцыі... І цьвёрда спадзяёмся, што дасягнём свае мэты, калі нам ня будуць шкодзіць нашыя-ж палітыканы і любіцелі „глыбокіх устрасеньняў“ і чырвоных штандараў.

Патрэбна, як і заўсёды, творчая праца, а ня гучныя агітацыйныя прамовы, танная дэмагогія і заграпічныя інтрыгі.

*В. Адамовіч.*

Выдавец: Беларускае Грамадзянск. Сабраньне. Рэдактар: Язэп Салавей. Друкарня „Lux“, вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф. № 203.